# Голас Радзімы

№ 36 (2126)
7 верасня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




**УПЕРШЫНЮ Ў МІНСКУ ТУРЫСТЫЧНАЯ ГРУПА ВУЧНЯЎ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ**


[«Адчувалі сябе дома»]
Стар. 4


**СЦЭНІЧНАЕ МАСТАЦТВА НА НОВЫМ ВІТКУ НАЦЫЯНАЛЬНАГА КУЛЬТУРНАГА АДРАДЖЭННЯ**


[«Крок зроблены. Што далей?»]
Стар. 6


Прафесія марака заўсёды была акружана арэолам рамантыкі. Плысці ў нязведаныя далі, змагацца з бурамі, моцна сябраваць і верна кахаць—што можа быць больш прывабным для мужчыны. Гомельскае спецыяльнае прафесійна-тэхнічнае вучылішча вядомае ў нашай «сухапутнай» рэспубліцы тым, што тут рыхтуюць спецыялістаў для марскога і рачнога флоту. Юнакі, якія заканчваюць яго, працуюць на караблях, у портах, а некаторыя ў далейшым нават капітанамі далёкага плавання, начальнікамі рачных і марскіх портаў. Вучылішча было створана пяцьдзесят гадоў назад. З таго часу з яго сцен выйшлі каля 10 тысяч выпускнікоў.

НА ЗДЫМКУ: дваццаць адзін год працуе ў вучылішчы майстар вытворчага навучання Марат **АРДАШНІКАЎ**.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

ГОСЦІ З ЗША

## ЗНАК ДРУЖБЫ

Адной з першых адклікнулася на заклік беларускай грамадскасці дапамагчы рэспубліцы лякарствамі і медыцынскім абсталяваннем для пераадолення вынікаў чарнобыльскай катастрофы амерыканская арганізацыя «Фрэндшып Форс» («Сіла дружбы»). Яе дэлегацыя з штата Мінесота знаходзілася ў нашай рэспубліцы. На сустрэчы ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі кіраўнік дэлегацыі, член нацыянальнага савета дырэктараў «Фрэндшып Форс» Рычард Фолк уручыў урачу Аляксандру Саўчанку унікальны апарат дапаможнага кровазвароту. Гэта дар дырэктара кампаніі «Біо медыкус» Джэймса Лайанса.

— Наша грамадская арганізацыя створана ў 1977 годзе па ініцыятыве прэзідэнта Картэра,— расказвае Рычард Фолк.— «Фрэндшып Форс» падтрымлівае сяброўскія сувязі з грамадскасцю больш чым 50 краін свету. У ліпені гэтага года мы прымалі ў сябе групу беларусаў, сярод якіх былі людзі самых розных узростаў і прафесій— паэт, рабочы, актрыса, урач, вучоны і іншыя. Яны засталіся задаволенымі сваім візітам у ЗША.

ЗАМЕЖНЫ ГАНДАЛЬ

## «ЛІ», «ЛІВАЙС» ЦІ?..

Вядомым паўночнаамерыканскім фірмам «Лі», «Лівайс» і іншым, якія спецыялізуюцца на вытворчасці маладзёжнага адзення для адпачынку, магчыма, у хуткім часе складзе канкурэнцыю прадукцыя брэсцкіх швейнікаў.

Першая партыя падлеткавых піжам, пашытых на мясцовай швейнай фабрыцы па заказу гандлёвай фірмы «Глобал рызерсес» з Манрэаля, падрыхтавана да адпраўкі ў Канаду.

Пры пасрэдніцтве «Рознаэкспарта» кіраўнікі прадпрыемства выйшлі на прадстаўнікоў канадскай фірмы. Па прапанаваных спецыялістамі з Манрэаля мадэлях была пашыта першая партыя піжам.

Прадпрыемства, якое выпускае дзіцячае адзенне, не выпадкова наладжвае дзелавыя сувязі з зарубежным партнёрам. Брэстаўчане атрымаюць ад фірмы не толькі валюту, але і тэхналагічныя распрацоўкі, якія будуць прымяняць у вытворчасці вырабаў, што паступаюць на ўнутраны рынак краіны. Заказ жа па кантракту будзе выканан дадаткова да прадукцыі, адгружаемай швейнай фабрыкай сваім пастаянным заказчыкам—гандлюючым арганізацыям Беларусі.

НЕЗВЫЧАЙНАЯ АПРАЦОЎКА ПАЛЁЎ

## КАЛГАСНАЯ «ЭСКАДРЫЛЛЯ»

Два маторныя дэльтапланы набыў калгас «40 гадоў Кастрычніка» Камянецкага раёна. Іх змайстравалі па заказу земляробаў брэсцкі кааператыў «Івалга».

Быццам матылькі, прычальваюць міні-самалёты да калгаснага аграхімцэнтра. У бакі заліваюць вадкія комплексныя ўгнаенні або гербіцыды. З вышыні двух-трох метраў на невялікай хуткасці іх можна распыліць нават над асобнымі радкамі. Дакладнасць, а значыць і экалагічная бяспека прымянення хімікатаў гарантуецца. Вось чаму на невялікіх палях, паблізу населеных пунктаў і рэк, дэльтапланы, нягледзячы на іх параўнальна невысокую прадукцыйнасць, пасяпхова канкурыруюць з сельгасавіяцыяй. Ёсць у незвычайных памочнікаў хлебаробаў і яшчэ адна перавага: яны не топчуць пасевы, не ўшчыльняюць глебу.

Пілотамі калгаснай «эскадрыллі» пасля стажыроўкі ў кааператыве сталі маладыя механізатары.

КААПЕРАЦЫЯ



Прыгожыя двухпавярховыя дамы арыгінальнай канструкцыі выраслі зусім нядаўна ў вёсцы Юзуфава—цэнтры саўгаса «Буцэвічы» Мінскага раёна. У верасні ўсе яны ўжо будуць здадзены ў эксплуатацыю. А спачатку планавалася ўзвесці ўсяго чатыры дамы, ды і то не раней новага года. Справа ў тым, што ў гаспадаркі з'явіліся грошы, і гэта дазволіла не толькі расшырыць праграму, але і паскорыць увод жылля. Вядома ж, справу не вырашылі б, калі б не скааперавaліся з прамысловым прадпрыемствам. У кошт кампенсацыі затрат калгаснікі павінны, згодна з дагаворам, рэалізаваць сваім партнёрам адпаведную колькасць прадуктаў харчавання. Абодва бакі лічаць, што такое супрацоўніцтва аднолькава выгаднае і гаспадарцы, і рабочым-гараджанам.

НА ЗДЫМКУ: на адной з вуліц вёскі Юзуфава.

ДАПАМОГА СТУДЭНТАЎ





Добрай практыкай для будучых урачоў стала праца ў атрадзе «Верас» Мінскага медыцынскага інстытута. У дзевятай клінічнай бальніцы ў дні летніх канікул дапамагалі медперсаналу восемдзесят студэнтаў. Да трэцяга курса яны выконвалі абавязкі санітараў, пасля трэцяга—медсёстраў і «медбратоў». Студэнты даглядаюць хворых, дзяжураць у прыёмным пакоі, мераюць ціск, робяць уколы, адпускаюць розныя працэдуры.

Атрад у летні час часткова замяняе больш чым медыкаў, якіх вельмі не хапае і ў якіх мае патрэбу бальніца. Але галоўнае, што яшчэ ў студэнцкую пару юнакі і дзяўчаты могуць праверыць, ці правільна зроблены выбар будучай прафесіі, удасканальваюцца ў ёй.

НА ЗДЫМКАХ: трэцякурснік Яўгеній КАПЛАН — санітар прыёмнага аддзялення; студэнткі Алена КАПІТАН і Ларыса КУЗНЯЦОВА працуюць у аддзяленні неўралогіі.

НОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ

## ДУХМЯНАЯ ЎПАКОЎКА

Цікавае назіранне зрабілі вучоныя Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР у Гомелі: варта крыху змяніць тэхналогію вытворчасці поліэтыленавай плёнкі, як у яе з'яўляюцца новыя незвычайныя ўласцівасці.

Загорнутыя ў такую ўпакоўку прадукты не толькі даўжэй захоўваюцца, але і набываюць прыемны пах. Праўда, пакуль што арыгінальную тару не сустрэнеш у магазінах: яе можна ўбачыць толькі ў выставачнай зале інстытута.

Але, мяркуецца, тэрмін укаранення навінкі не будзе доўгім, бо ў ёй зацікаўлены жыхары многіх раёнаў Беларусі. Прычым, не толькі з-за арыгінальных смакавых уласцівасцей. Ва ўмовах павышанай радыяцыі ўпакоўка надзейна ахоўвае хлеб, мяса і іншыя прадукты ад небяспечнага пылу, дапамажа захаваць здароўе людзей. Дарэчы, распрацоўкай гамяльчан ужо зацікавіліся зарубежныя фірмы.

ЭКАЛОГІЯ

## ЯК ЗДАРОЎЕ, РАКА?

Даведацца пра здароўе Дняпра ад вусця да вытоку вырашылі вучоныя, пісьменнікі і журналісты трох рэспублік — РСФСР, Украіны, Беларусі. Аб'яднаная гісторыка-экалагічная экспедыцыя адправілася ў Смаленскую вобласць, дзе пачынаецца рака звонкім тонкім ручайком.

Паставіць дыягназ рацэ прапанавалі вучоныя, якія сур'ёзна занепакоены станам вады і прыбярэжных зон, выраджэннем флоры і фауны рэгіёна. Ідэя знайшла падтрымку грамадскіх арганізацый па ахове прыроды, Беларуская экалагічная саюза, вядомых пісьменнікаў і публіцыстаў.

У распараджэнні біёлагаў, хімікаў, аграгэхнікаў, арнітолагаў, іхтыёлагаў і іншых вучоных трох акадэмій навук — самая сучасная апаратура для экспрэс-аналізаў стану навакольнага асяроддзя, прыборы для глыбокага кантролю. Вынікі навуковых назіранняў дапамогуць скласці праграму па выратаванню Дняпра.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# КОЛЬКІ НАС?

**Карэспандэнт Агенцтва друку Навіны Марыя ЛЬЯНАС-МАС гутарыць з вядомым савецкім дэмографам Маркам ТОЛЬЦАМ, супрацоўнікам Інстытута сацыяльна-эканамічных праблем народанасельніцтва Акадэміі навук СССР.**

**— АПУБЛІКАВАНЫ ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ ПЕРАПІСУ НАСЕЛЬНІЦТВА СССР, ПРАВЕДЗЕНАГА Ў ПАЧАТКУ ГОДА. ЯК ВЫ ІХ ПРАКАМЕНЦІРУЕЦЕ?**

— Перапіс паказаў, што насельніцтва СССР устойліва расце і дасягнула 286 мільёнаў 717 тысяч чалавек. З часу апошняга перапісу 1979 года яно павялічылася на 9,3 працэнта. Але гэты рост быў неаднолькавы ў розных частках краіны. У Расійскай Федэрацыі насельніцтва вырасла на 7,2 працэнта, на Украіне—на 4 працэнты, у Беларусі—на 7 працэнтаў. Прыблізна таксама расла колькасць і ў рэспубліках Прыбалтыкі: у Літве—на 9 працэнтаў, у Латвіі—на 6 працэнтаў, у Эстоніі—на 7 працэнтаў. А ў рэспубліках Сярэдняй Азіі рост быў высокім. У Таджыкістане за 10 гадоў насельніцтва павялічылася на 34 працэнты, на Узбекістане—на 29 працэнтаў, у Туркменіі—на 28 працэнтаў, у Кіргізіі—на 22 працэнты. Адпаведна павялічваецца колькасць жыхароў Сярэдняй Азіі ў агульным насельніцтве краіны.

**— НА З'ЕЗДЗЕ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ СССР ПІСЬМЕННІК ВАСІЛІЙ БЯЛОЎ ГАВАРЫЎ АБ ПАГРОЗЕ ДЭПАПУЛЯЦЫІ. БЯЛОЎ СЦВЯРДЖАЎ: СІТУАЦЫЯ ТАКАЯ, ШТО ЁН НЕ РАШАЕЦЦА ПРЫВЕСЦІ ЛІЧБЫ...**

— Калі гаварыць аб доўгатэрміновых тэндэнцыях, то для славянскага насельніцтва краіны перспектывы сапраўды неспрыяльныя. Сярод рускіх жанчын, украінак, беларусак, якія ўзялі шлюб у першай палове 80-х гадоў, чакаемая колькасць дзяцей была менш двух.Гэтага яўна недастаткова, каб народжаныя дзеці замясцілі бацькоўскае пакаленне. Дзеці ж будуць не ў кожнай сям'і. Таму мінімальная з пункту гледжання ўзнаўлення статыстычная колькасць дзяцей павінна быць 2,3.

У рэспубліках Сярэдняй Азіі, насупраць, захоўваецца традыцыйна высокі ўзровень нараджальнасці. Апытанні паказваюць, што і маладыя замужнія жанчыны ў гэтых рэспубліках па-ранейшаму хацелі б мець многа дзяцей—больш пяці маюць намер мець узбечкі, таджычкі, туркменкі, чатыры-пяць—кіргізкі.

Зрэшты, тут высокі ўзровень дзіцячай смяротнасці: яна вышэйшая за 50 на тысячу народжаных у Туркменіі, амаль 49—у Таджыкістане, 42—ва Узбекістане.

Летам, калі сітуацыя са смяротнасцю немаўлят абвастрэецца, у рэспубліках Сярэдняй Азіі накіроўваюцца шматлікія групы ўрачоў з рэспублік цэнтральнай часткі краіны. Іх работа фінансуецца грамадскасцю, гэтым займаецца Дзіцячы фонд імя У. І. Леніна. Падобныя меры прывялі да некаторага зніжэння паказчыкаў дзіцячай смяротнасці, але даныя на пачатак гэтага года сведчаць, што рашаючага пералому пакуль не надышло.

**— ЦЯПЕР, КАЛІ АПУБЛІКАВАНЫ ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ ПЕРАПІСУ НАСЕЛЬНІЦТВА, ЯК ВЫ МОЖАЦЕ АЦАНІЦЬ ДАНЫЯ СТАТЫСТЫКІ?**

— Перапіс паднёс нават нам, спецыялістам, некалькі сюрпрызаў. Аказалася, што зніжэнне колькасці сельскага насельніцтва ў СССР было істотна меншым, чым паказвалі бягучыя разлікі. Яны гаварылі аб зменшэнні пасля перапісу 1979 года сельскага насельніцтва на 3,2 мільёна чалавек, а фактычна зменшэнне склала ўсяго 900 тысяч чалавек.

Наадварот, лічба перапісу па гарадскому насельніцтву краіны аказалася меншай, чым ацэнка па даных бягучага ўліку, гэта значыць гараджан цяпер у краіне менш, чым мы думалі.

**— МОЖА БЫЦЬ, ГЭТА НЕДАСКАНАЛАСЦЬ УЛІКУ! ЦІ ПАМЫЛКІ Ў ПЕРАПІСУ?**

— Хутчэй за ўсё, гэта вынік недасканаласці ўліку міграцыі насельніцтва. У СССР дзейнічае пашпартная сістэма. Рэгіструючыся па месцу жыхарства, чалавек трапляе ў рэестры статыстыкі, і гэта рэгістрацыя служыць падставай для ўліку міграцыі. А рэальнасць аказваецца іншай. Пашпартныя рэжым часта аслаблены, часам нават не забяспечваецца выкананне ўстаноўленых правілаў. Сёння ставіцца пытанне аб адмене сістэмы прапіскі, а толькі аб рэгістрацыі пражывання.

**— ЦІ ЗМЯНІЛА ПЕРАБУДОВА МЕТАДЫ САВЕЦКАЙ ДЭМАГРАФІІ?**

— Упершыню ў маім жыцці надышоў перыяд, калі стала прыемна працаваць. Сёння нам даступныя ўсе даныя, зніклі ўсемагчымыя «сакрэты». Вынікі мінулага перапісу былі «ўціснуты» ў адзін том, а ў 20-х гадах, да якіх мы сёння вяртаемся ў пошуках крыніц, матэрыялы перапісу былі выдадзены ў 56 тамах. Матэрыялы новага перапісу мяркуецца выдаць таксама ў многіх тамах. У мінулым годзе, упершыню пасля доўгага перапынку, быў выдадзены спецыяльны статыстычны штогоднік «Насельніцтва СССР». Сёлета плануецца новае яго выданне. Самыя «сакрэтныя» лічбы ранейшых гадоў сталі адкрыта публікавацца: гэта даныя аб працягласці жыцця, аб колькасці абортаў і самазабойстваў, прычыны смяротнасці.

Наш інстытут утвораны год назад—гэта дзецішча перабудовы. Дарэчы, пытанне аб яго стварэнні было ўзнята прэсай. Мы атрымалі магчымасць разгарнуць шырокія даследаванні, наладжваецца міжнароднае супрацоўніцтва. Бар'ер на шляху развіцця міжнароднай навуковай інтэграцыі ў дэмаграфіі знік.

## ПЕРАБУДОВА ВЫШЭЙШАЙ АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ

# ШУКАЦЬ УЛАСНАЕ АБЛІЧЧА

ТОЕ, што наша вышэйшая школа адстае сёння ад патрабаванняў жыцця, ні ў кога ўжо сумнення не выклікае. Больш чым тры гады перабудовы пераканаўча даказалі ўсім: выпускнікі вышэйшых навучальных устаноў (ВНУ) часта няздольныя вырашаць не толькі сучасныя задачы дня, але і самыя, здавалася б, элементарныя пытанні.

Пра новую сістэму вышэйшай адукацыі, якая адпавядала б новаму ўзроўню развіцця эканомікі і грамадства, пра стварэнне сучаснай мадэлі ВНУ гавораць усё часцей і больш настойліва. Якой ёй быць? Што тут робіцца або ўжо зроблена? Перш чым адказаць на гэтыя пытанні, паспрабуем даць аб'ектыўную ацэнку той сітуацыі ў вышэйшай школе рэспублікі, якая сёння склалася. Вось як яе характарызуюць у саміх ВНУ.

Беларускі універсітэт імя Леніна. Тут самі супрацоўнікі лічаць, што добрых спецыялістаў выпускаюць выключна мала. І перш за ўсё кульгае практычная падрыхтоўка. Тэарэтычная ж па некаторых дысцыплінах даволі высокая. Напрыклад, выкладанне матэматыкі, тэарэтычнай фізікі, а таксама некаторых гуманітарных прадметаў вядзецца на ўзроўні лепшых сучасных школ. Дарэчы, у ЗША матэматыку вывучаюць па падручніках савецкіх аўтараў.

Беларускі політэхнічны інстытут (БПІ). У чым адстае яго выпускнік? У прафесіяналізме, самастойнасці мыслення, арганізатарскіх навыках, культуры. Не вельмі прыемна гэта канстатаваць, ды нічога не зробіш—факт.

Мінскі радыётэхнічны інстытут. Што датычыць чыста інжынернай падрыхтоўкі, тэарэтычных ведаў, прэтэнзій да выпускнікоў няма. Але гэта зусім не значыць, што яны ва ўсім высокакласныя прафесіяналы. Слабыя месцы выпускнікоў РТІ — адсутнасць ініцыятывы, творчасці, мыслення эканамічнымі катэгорыямі, навыкаў работы з калектывамі. А вось якую ацэнку нашай сістэмы вышэйшай адукацыі давялося пачуць у Віцебскім тэхналагічным інстытуце: «Ад лепшых сучасных вышэйшых школ свету мы моцна не адстаём. У галіне выкладання і распрацоўкі тэарэтычных навук—матэматыкі, тэарэтычнай фізікі, той жа інфарматыкі—мы стаім вышэй, чым замежныя школы. Але ахілесава пята інстытутаў—адсутнасць сродкаў вылічальнай тэхнікі наогул і персанальных ЭВМ, у прыватнасці. Гэта сапраўднае бедства. Калі б мы мелі камп'ютэрную базу і сучаснае абсталяванне, плюс рэжым работы выкладчыкаў такі, як за мяжой, мы літаральна за год былі б наперадзе».

Кіраўнікі рэспубліканскіх ВНУ бачаць тры галоўныя прычыны, якія ўпарта цягнуць уніз узровень нашай вышэйшай школы. Першая—выключная слабасць базы: тэхнічных сродкаў на аднаго студэнта прыходзіцца ў некалькі разоў менш, чым у лепшых замежных ВНУ ЗША і ФРГ. Другая прычына—непадрыхтаванасць выкладчыкаў. Здарыся, кажуць яны, сёння прынцыповы адбор, дзе б існаваў толькі адзін крытэрый—майстэрства, працаваць засталося б працэнтаў шэсцьдзесят. Астатніх трэба было б давучваць. І трэцяя—даканца не прадуманы, нерацыянальны, а таму і неэфектыўны сам працэс навучання. Далей яны называюць яшчэ не зусім высокую падрыхтоўку ў школах будучых студэнтаў, часта фармальную арганізацыю вытворчай практыкі, слабыя падручнікі.

Але ж што робіцца для таго, каб палепшыць сітуацыю? Якія змены чакаюцца ў ВНУ ў бліжэйшай будучыні і нават сёння? Любы інстытут пачынаецца з абітурыентаў. І кожны імкнецца адабраць самых лепшых. Як гэта зрабіць? У Беларускім універсітэце шукаюць новыя формы работы з будучымі абітурыентамі, пашыраюць тыя, што ёсць. Напрыклад, пераможцаў рэспубліканскіх школьных алімпіяд прымаюць без уступных экзаменаў. Далей, лічаць тут, трэба шырока развіваць школы-інтэрнаты, якія б дзейнічалі пры ВНУ. У Беларускім політэхнічным інстытуце імкнуцца пачынаць прыём яшчэ ў школах—арганізуюць там свае прадстаўніцтвы. Другім каналам, лічаць у БПІ, павінны стаць прафесійна-тэхнічныя вучылішчы і тэхнікумы: лепшыя выпускнікі іх напрамую, часам без уступных экзаменаў, пераходзяць у ВНУ. У Гомельскім політэхнічным інстытуце стварылі школу будучага інжынера. З [illegible]чакоў дзевятых класаў, як[illegible]ймаюцца ў двух гомельскіх вучэбна-вытворчых камбінатах, выбралі тых, хто найлепш паспявае па матэматыцы і фізіцы. Цяпер яны раз у тыдзень прыходзяць у і[illegible]тут. Заняткі вядуцца па с[illegible]тойна распрацаванай пра[illegible]раме. Школьнікі не толькі паглыблена вывучаюць фізіку, матэматыку, інфарматыку, але і ўдзельнічаюць у гуртковай рабоце, спартыўных спаборніцтвах, самадзейнай мастацкай творчасці. На працягу двух гадоў яны цалкам адаптуюцца да студэнцкага жыцця, правяраюць сябе, свой выбар. Затым здаюць выпускныя экзамены. Тыя, хто вытрымаў іх, паступаюць у Гомельскі політэхнічны.

Перабудова пачалася і ўнутры саміх вышэйшых навучальных устаноў. Напрыклад, сёння іншы раз гавораць аб крызісе Беларускай акадэміі—пастарэла, упаў узровень фундаментальных даследаванняў. Як палепшыць справу? Прапанова беларускага універсітэта — аб'яднаць гэтыя дзве ўстановы. І аб'яднаць не проста фармальна, але і тэрытарыяльна. Гэта, лічаць на універсітэце, было б сапраўды рэвалюцыйнае пераўтварэнне, якое не толькі рэзка палепшыла б змест адукацыі, але і рушыла б наперад навуку. Сусветная практыка даказвае: месца фундаментальнай навукі ва універсітэце. Яна і навучанне—адзінае цэлае. Чым вышэй фундаментальная навука, тым вышэй навучанне. Першыя формы збліжэння універсітэта і акадэміі ажыццяўляюцца. Нядаўна яны заключылі пагадненне аб адкрыцці сямі вучэбна-навуковых цэнтраў: фізікі, матэматыкі, хіміі, біялогіі, гісторыі, філалогіі, літаратуры.

Далей ва універсітэце лічаць: усе ВНУ, якія існуюць, узняць на самы высокі ўзровень нельга. І толькі, спецыялізаваўшы іх, можна дабіцца поспеху. Такая мабільная сістэма з перамяшчэннем студэнтаў і выкладчыкаў і з канцэнтрацыяй сіл і сродкаў на асобных напрамках найбольш эфектыўная і вельмі ўдала дастасуецца да магчымасцей нашай рэспублікі. Ёсць у нас універсітэты і спецыялізаваныя ВНУ. Калі часткова рэарганізаваць і ўмацаваць іх, можна было б даручыць першым весці фундаментальную падрыхтоўку, а другім спецыяльную. Толькі такім чынам мы можам кардынальна палепшыць сваю тэхнічную базу, ды і самі веды студэнтаў.

Сёння БПІ выпускае інжынераў вузкай накіраванасці, якія могуць ісці працаваць толькі на трактарны або аўтамабільны заводы. Гэта няправільна, лічаць кіраўнікі ВНУ. Падрыхтоўка ў вышэйшай навучальнай установе павінна дазваляць інжынеру лёгка пераходзіць з адной сферы ў іншую. Тут удалае спалучэнне трох напрамкаў спецыяльнасцей — машынабудаванне, энергетыка і будаўніцтва. Здавалася б, розныя рэчы. Але давайце паглядзім з іншага боку. Ці можна, скажам, рыхтаваць спецыялістаў-будаўнікоў без ведання машын, з дапамогай якіх вядзецца само будаўніцтва? Або ці можна гаварыць пра машынабудаванне без ведання энергетыкі? Усе яны ўзаемазвязаны. Такім чынам, лічаць у БПІ, мы магчыма якраз і падрыхтавалі ўжо да выпуску якасна новага спецыяліста—інтэграванага інжынера. Зразумела, дадаць такую фундаментальную падрыхтоўку здольна толькі кардынальна новая ВНУ — тэхнічны універсітэт.

Мінскі радыётэхнічны інстытут звязаны сёння з прадпрыемствамі, бадай, як ніводная ВНУ рэспублікі. Але і гэтага мала, мяркуюць тут. Нельга, каб малады спецыяліст траціў час на адаптацыю. Таму ў будучыні тут бачаць свой інстытут як спецыялізаваны цэх сучаснага аб'яднання.

У Гомельскім інстытуце наогул факультэты і кафедры аб'ядноўваюць у чатыры самастойныя гасразліковыя аддзяленні. Замест дэканаў—дырэктары аддзяленняў. Два першыя аддзяленні займаюцца толькі распрацоўкай і выкладаннем спецыяльных дысцыплін. Два наступныя—прыродазнаўчых і грамадскіх навук. Замест былых кафедраў—аддзелы з лабараторыямі. У іх студэнты, замацаваныя за выкладчыкамі-куратарамі, выконваюць рэальную навукова-даследчую ці канструктарскую работу.

Міністр народнай адукацыі рэспублікі Міхаіл Дзямчук у адказ на пытанне, якую мадэль перабудовы ён падтрымлівае, гаворыць так: «Аднолькавых мадэлей быць не павінна. Кожнай ВНУ трэба шукаць уласны твар, стаяць на уласнай канцэпцыі перабудовы інстытута. Міністэрства гатова падтрымаць самую смелую мадэль. Хаця ў той жа час ісці ўслед за любой прапановай нельга. У нас ёсць адзіная нацыянальная палітыка—максімальная стыкоўка вышэйшай школы з народнагаспадарчым комплексам. Тыя мадэлі, якія прапанаваны,—розныя па зместу, але аднолькавыя «па духу»—служаць інтэграцыі адукацыі, навукі і вытворчасці».

Такім чынам, у рэспубліцы пакладзены пачатак рэальнай перабудовы вышэйшай школы, пераходу ад мітынговай да дзелавой палітыкі вядзення спраў. Яна нясе шэраг дакладна акрэсленых напрамкаў абнаўлення ВНУ.

С. СЛАВІН.

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# ПАЛІТЫЧНЫ ЛОЗУНГ І РЭЧАІСНАСЦЬ

Вось ужо больш як паўгода самы папулярны палітычны лозунг у СССР «Уся ўлада—Саветам». Ён гучыць на шматлікіх сходах і мітынгах, пастаянна прысутнічае на старонках газет і часопісаў, у тэле- і радыёперадачах, займаў галоўнае месца ў праграмах кандыдатаў у час выбараў народных дэпутатаў краіны. Асаблівую вастрыню ён набыў у апошні час, калі пачалася падрыхтоўка да другога этапу палітычнай рэформы—выбараў народных дэпутатаў у рэспубліканскія і мясцовыя Саветы. Лозунг гэты азначае надзяленне Саветаў усіх рангаў рэальнай дзяржаўнай уладай, большасць функцый якой раней належала партыйным камітэтам. У тым, што ён атрымлівае зараз рэальнае напаўненне на верхніх паверхах кіравання краінай, савецкі народ пераканаўся, калі сачыў за работай цяперашняга Вярхоўнага Савета СССР. Вось чаму людзі з вялікай нецярплівасцю чакаюць і выбараў у мясцовыя органы ўлады, звязваюць з іх новым саставам надзеі на добрыя перамены ў рэгіёнах, а значыць і ў сваім жыцці.

Чаканні такія апраўданыя. Пра гэта сведчаць прыклады (хаця пакуль і нешматлікія) кадравых [illegible]мен дэмакратычным шл[illegible] у мясцовым кіраванні, [illegible]кія адбываюцца ўжо сёння.

Нядаўна старшынёй Ушацкага райвыканкома Віцебскай вобласці стаў Іван Баруноў. Цярністы[illegible]быў яго шлях на гэтую па[illegible]. Партыйныя органы рэ[illegible]мендавалі на яе іншага чалавека, і быць бы па-іхняму, калі б не новыя павевы ў краіне.

Адной з першых ініцыятыў новага кіраўніка стаў клопат пра паляпшэнне харчовага забеспячэння жыхароў гарадскога пасёлка Ушачы пладагароднінай прадукцыяй. Шэсцьдзесят сем гектараў зямлі вакол раённага цэнтра, якая дагэтуль пуставала, вясною па рашэнні выканкома было перададзена гараджанам для выкарыстання пад агароды.

Нестандартнымі падыходамі да вырашэння праблем заявіў аб сабе Іван Баруноў на адказнай пасадзе і ў іншых кірунках дзейнасці органа мясцовай улады. Але не ўсё залежыць толькі ад яго. Акрамя дзейнага дэпутацкага корпуса, патрэбны новы механізм функцыяніравання. У прыватнасці, каб мясцовыя Саветы мелі надзейнае фінансавае падмацаванне.

І ў рэшце рэшт ведамасны падыход прынёс сумныя вынікі: ва ўсіх кутках краіны, у тым ліку і ў Беларусі, востра не хапае жылля, школ, бальніц, іншых аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры. Вось і той жа Ушацкі раён, радзіма двух выдатных беларускіх пісьменнікаў — Петруся Броўкі і Васіля Быкава, атрымаў вельмі слабае развіццё. Невыразны сам гарадскі пасёлак, занядбаны выгляд, асабліва на фоне сельскіх пасяленняў Брэстчыны, і ў тутэйшых вёсак... Чаму? Ды таму, што на тэрыторыі раёна няма ніводнага буйнога і нават сярэдняга прадпрыемства, а гадавы фонд мясцовага бюджэту складае ўсяго толькі каля пяці мільёнаў рублёў. Гэтых грошай ледзь хапае на фінансаванне запланаваных мерапрыемстваў (аплату працы многіх катэгорый мясцовых работнікаў, пенсій і г. д.) і будаўніцтва нязначных аб'ектаў. Тут і да цяперашняга часу няма па-сапраўднаму прыгодных будынкаў ні пад кінатэатр, ні пад Дом культуры, ні пад бібліятэку... Вось чаму неабходна рэзка ўзмацніць тэрытарыяльны аспект кіравання, аслабіць ведамасны. Гэта дасць магчымасць мясцовым Саветам народных дэпутатаў стаць сапраўднымі гаспадарамі сваіх тэрыторый.

Узяць зноў жа Ушаччыну. Прырода шчодра надзяліла яе адметнымі багаццямі. Сярод густых грыбных і ягадных лясоў размясціліся каля трохсот азёр. Між тым, гэтыя мясцовыя асаблівасці, на жаль, практычна не выкарыстоўваюцца. Вядома, што ў рэспубліцы існуе вялікі попыт на аздараўленне і арганізаваны адпачынак—месцы ў санаторыях, прафілакторыях і на турыстычных базах, асабліва пасля чарнобыльскай аварыі. Але тут, у раёне, зараз толькі адна такая ўстанова. А яны ж вельмі даходныя. «Залатая жыла» для дбайнага і прадпрымальнага гаспадара. Нельга сказаць, што яе ў раёне не заўважаюць. Аднак у мясцовых органаў улады пакуль яшчэ няма заканадаўчых умоў для праяўлення той жа прадпрымальнасці. Таму людзі вельмі чакаюць, калі ж на справе будзе — «Уся ўлада—Саветам». Гэты лозунг мае для іх зусім канкрэтны сэнс—магчымасць ініцыятыўна гаспадарыць, распараджацца сваёй зямлёй.

М. ДАШУК.




**У Смалявічах, што ў Мінскай вобласці, адкрыўся новы магазін «Ветэран». Галоўным чынам ён будзе абслугоўваць так званую льготную катэгорыю пакупнікоў—ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, інвалідаў, мнагадзетныя сем'і з горада і навакольных вёсак.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

*У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»*

# АДЧУВАЛІ СЯБЕ ДОМА

„МЫ ЗАХОПЛЕНЫ!». Гэтыя словы я чуў кожны раз, калі хто-небудзь пытаўся ў дзяўчынак і хлапчукоў з групы, як яны адчуваюць сябе на Беларусі. Прызнаюся, што і сам быў шчыра захоплены ўсе дні, якія давялося правесці разам з імі. Дзіцячая непасрэднасць, дабрыня, вялікая цікавасць да ўсяго, што бачаць вакол сябе, і самае галоўнае, мяккая і чыстая, такая прыгожая беларуская гаворка.

Першы раз я ўбачыў іх у цэнтры Мінска на Ленінскім праспекце. Стракатая групка дзяцей рассыпалася па тратуары і ажыўлена абменьвалася ўражаннямі. Дзіўна было назіраць за рэакцыяй шматлікіх прахожых. Спачатку здзіўленне, а потым вельмі добрая ўсмешка. Людзі радаваліся, што нарэшце ў цэнтры сталіцы Беларусі можна пачуць, як больш за дваццаць школьнікаў размаўляюць на беларускай мове. Хочацца верыць, што меры, якія прымаюцца грамадскасцю і ўрадам рэспублікі, хутка канчаткова адродзяць яе і мы будзем чуць родную гаворку ўсюды. Але пакуль на беларускай мове размаўлялі школьнікі з Польшчы, беларусы па паходжанню.

Упершыню ў Беларусь прыехала група школьнікаў і настаўнікаў беларускіх школ з Беластоцкага ваяводства. З дапамогай Рэспубліканскай станцыі юных турыстаў гэтую паездку арганізавалі Беларускае таварыства «Радзіма» і Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ) у Польшчы. Дзеці змаглі пабываць у розных гарадах і вёсках, пазнаёміцца са сваімі равеснікамі ў піянерскім лагеры.

Кожны дзень быў запоўнены, але юныя падарожнікі не адчувалі стомы. Беларускія дзеці з Польшчы прыехалі не толькі паглядзець, але і сябе паказаць. Мастацкі калектыў «Зярняткі» даў некалькі канцэртаў.

Хацелася даведацца, як успрынялі дзеці гэтую паездку, як сустракалі іх канцэрты нашы гледачы. Спачатку размова не клеілася. Відаць, саромеючыся дарослага, вучні на ўсе пытанні шчыра, але коратка адказвалі: «Усё спадабалася. Усюды сустракаюць вельмі добра». Але потым разгаварыліся.

— Мы ўсе з розных беларускіх школ гміны Орля на Беласточчыне,— пачала Івона Шырэнас,— нашы бацькі беларусы, і мы вывучаем беларускую мову, літаратуру, гісторыю. Вядома ж, нам усім хацелася пабываць у Беларусі, паглядзець, як вы тут жывяце. Але што будзе паездка, мы ніколі не думалі. І вельмі шчаслівыя, што мы тут.

— Усё, што бачым тут, вельмі цікава. Мы ўжо былі ў Гродне, Навагрудку, спыняліся ў вёсцы Гудзевічы, былі ў піянерскім лагеры, вось цяпер прыехалі ў Мінск,—працягвала Ірэна Майстровіч.— Я нават не магу сказаць, што мне больш спадабалася. Нам усё цікава, таму што мы ўпершыню ў Беларусі. Хочацца глядзець і глядзець, наведаць як мага больш розных месцаў. І ўсё запамінаецца. І вельмі радуе, што нас прымаюць як сваіх.

Ася Гаворка смяецца і кажа:



— У вёсцы Гудзевічы многія падыходзілі і гаварылі: «Не, не можа быць, што гэта з Польшчы. Гэта ж нашы. Пэўна маняць». Нам гэта было прыемна. І яшчэ, мы былі вельмі рады пазнаёміцца і падружыцца з вашымі дзецьмі. Будзем цяпер з імі [illegible]апісвацца.

— Ну, [illegible] вашы канцэрты?

Дзеці збянтэжыліся:

— Цяжка сказаць. Гледачы былі. Нам пляскалі ў далоні. Можа і спадабалася.

Яны яўна скромнічалі. Я чуў, што спяваюць вучні добра. Ды і адзін з дарослых, якія [illegible]аваджалі іх, дырэктар школы ў Пац[illegible]чыне, Янка Добаш, пацвердзіў, што канцэрты прайшлі з поспехам.

— Я сядзеў у зале і назіраў, як будзе рэагаваць публіка, як будуць паводзіць сябе дзеці,— расказваў ён.— Першы канцэрт быў у клубе калгаса ў вёсцы Гудзевічы. Было дзве гадзіны дня, рабочы дзень, але зала была паўнюткая. Дзеці вельмі хваляваліся. Вы ўяўляеце сабе сітуацыю? У нас на Беласточчыне некалькі беларускіх самадзейных калектываў дарослых, і кожны палічыў бы за гонар выступіць тут. Ды не ўдаецца. А ў «Зярнятках»—вучні 5, 6, 7-х класаў. Давалі канцэрты дома. Але выступаць у Беларусі! Вядома, пачатак быў цяжкім, хваляваліся. Ды гледачы дапамаглі, паступова дзеці асмялелі, песня пайшла ад сэрца. Тады ўжо і апладзіравалі ад душы. Спадабалася. Я бачыў. І дзе[illegible]ілі шчаслівыя. Ну а ў піянерскім лаге[illegible] сярод равеснікаў, выступаць было лягчэй.

— А яшчэ ў Гудзевічах нам вельмі спадабаўся настаўнік беларускай мовы і літаратуры,— сказала Ася Куна.— Ён так захоплена чытаў вершы Купалы, што мы ўсе пачалі чытаць раз[illegible] ім. Вельмі цікавай была сустрэча з беларускай паэтэсай Данутай Бічэль-Загнетавай. Вялікі гонар, што свае вершы спецыяльна для нас чытаў аўтар.

Ася вучыцца ў восьмым класе, займаецца ў драмгуртку і вельмі любіць вершы. Любяць іх і іншыя. І, вядома, незабыўнае ўражанне — магчымасць пачытаць усім разам вершы вялікага Янкі Купалы ў яго на радзіме, у вёсцы Вязынка.

— А мне вельмі спадабаўся Мінск,— дадала Еля Дружба.—Цудоўны горад. Я проста захоплена ім. Асабліва метро. Мы праехалі па ўсіх станцыях. Так прыгожа. Ніхто з нас раней на метро не ездзіў.

Словам, уражанняў у дзяцей многа і самыя розныя. І толькі на адно пытанне: «Што не спадабалася?», ад усіх атрымліваў адзін і той жа адказ: «Усё спадабалася».— «Але хоць што-небудзь не спадабалася?» — «Не, усё спадабалася».

— Гэта і не дзіўна,—растлумачыў кіраўнік групы, дырэктар школы ў Орлі Анатоль Мартыновіч. — Для большасці з іх гэта першая паездка ў Беларусь. Можа быць адзін ці два былі ў сваякоў, і гэта ўсё. І мы вельмі ўдзячныя за магчымасць, прадастаўленую нам Беларускім таварыствам «Радзіма», удзячны і Рэспубліканскай станцыі юных турыстаў, якая ўзяла на сябе матэрыяльнае забеспячэнне падарожжа. Я ўжо гаварыў у іншых месцах, дзе мы былі, і вам паўтару тое ж самае. Мы ж адзін народ, у нас адна мова, адна культура. Нас падзяляе толькі мяжа. Але для іх, маладых, у каго ўсё жыццё наперадзе, вельмі карысна паглядзець на Беларусь, завесці тут сяброў сярод равеснікаў, каб гэтая сувязь не перарывалася, а, наадварот, расшыралася і ўмацоўвалася. Мы адчувалі сябе тут дома, нібы на нашай роднай, як я гавару, беларускай Беласточчыне. Усё было проста цудоўна. Наша паездка стала магчымай дзякуючы расшырэнню апошнім часам сяброўскіх сувязей паміж нашай арганізацыяй БГКТ і Беларускім таварыствам «Радзіма». Хачу спадзявацца, што гэты працэс будзе працягвацца, што наша паездка паслужыць пачаткам пастаянных сустрэч вучняў беларускіх школ Беласточчыны і школьнікаў вашай рэспублікі. Мы вельмі будзем рады бачыць вашых дзяцей у сябе. А яшчэ больш будзем рады, калі ў будучыні нашы дзеці стануць сябрамі і будуць падтрымліваць адзін з адным такія ж цесныя сувязі, якія сёння наладзіліся паміж намі.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# ЦАНА СЛОВА

Першая сустрэча з Ганнай Лежэ была занадта кароткай, каб магла даць хоць нейкае ўяўленне аб гэтай жанчыне. Суайчынніца з Францыі літаральна на некалькі мінут забегла ў рэдакцыю, каб падзякаваць за газету, паскардзілася на цяжкасці ў набыцці білета назад, дамоў, таму што за апошнія гады значна ўзрасла колькасць людзей, якія падарожнічаюць за мяжу, і заспяшалася на аўтобус у Наваполацк, дзе жыве яе радня. Праз тры тыдні мы зноў сустрэліся з ёю. На гэты раз Ганна Апанасаўна была з мужам і сястрой Надзеяй, якая прыехала ў Мінск, каб праводзіць іх у Францыю. Да адпраўлення поезда заставался яшчэ шмат часу, і госці папрасілі паказаць ім горад. Мы паехалі. Некаторы час яны маўчалі, слухаючы назвы вуліц і плошчаў, разглядаючы розныя будынкі.

— Кожны раз не перастаю здзіўляцца незвычайнай прыгажосці Мінска,—загаварыла першай Ганна Апанасаўна.— Ёсць многа цудоўных гарадоў, але ў вас усё так прасторна, чалавек не адчувае сябе прыціснутым, вельмі многа зеляніны, лёгка дыхаецца. І як хутка ён расце. Некалі я бывала вось тут, на Ленінскім праспекце, каля абсерваторыі. Гэта быў канец горада. А цяпер і наперадзе цэлы горад.

— Так, Мінск увесь час будуецца і вельмі многім падабаецца, — згадзіўся я. — Ну, а якія ў цэлым вашы ўражанні ад таго, што ўбачылі за месяц у Беларусі?

— Па-мойму, справы ў вас ідуць нядрэнна, — адказала Ганна Лежэ. — Галоўнае, каб вайны не было.

На твары нашага вадзіцеля, маладога хлопца, з'явілася ўсмешка. Ды і я спачатку ўспрыняў выказванні Ганны Апанасаўны, як ветлівасць госця. «Усё ідзе нядрэнна». Гэта ў той час, калі мы самі бачым, колькі праблем і недахопаў накапілася ў нашым грамадстве, гаворым і пішам пра іх. А несумненна правільныя словы пра вайну так часта ўжываліся нашымі кіраўнікамі, каб прыкрыць уласную бяздзейнасць, безгаспадарчасць і ўсё тыя ж праблемы, што паступова страцілі для нас свой сапраўдны сэнс і часам выклікаюць нават адмоўную рэакцыю.

Але праз некалькі хвілін высветлілася, што гаварыла Ганна Апанасаўна вельмі шчыра, што кожны раз успамін пра вайну адгукаецца болем у яе сэрцы. Я пацікавіўся, як яна апынулася ў Францыі. Ганна Лежэ нечакана закрыла вочы, застагнала і адкінулася на сядзенне. Жанчыне зрабілася млосна.

— Давайце не будзем пра гэта гаварыць,— сказаў, да майго вялікага здзіўлення, на добрай рускай мове яе муж Марсель Лежэ

— Не, не. Ужо адпусціла. Мы з Надзеяй раскажам.

Надзея Апанасаўна насоўкай выцірала слёзы, але таксама згодна кіўнула.

Іх сям'я ўвесь час жыла ў старажытным Полацку. Бацька, маці, дзве дачкі і два сыны. Калі пачалася вайна, эвакуіравацца нікуды не паспелі, засталіся дома, і праз некаторы час немцы вывезлі ўсю сям'ю ў Германію. Надзеі тады было дзесяць гадоў, Ганне—чатырнаццаць. Апынуліся ў працоўным лагеры. Дарослых і падлеткаў выганялі на розныя работы, за любую правіннасць каралі. Ганна нарадзілася ў Савецкай краіне, была піянеркай, ды і характар у яе быў моцны. Яна ненавідзела фашыстаў і пры любым зручным моманце старалася ім шкодзіць. Не было тыдня, каб яе не каталі бізуном. Прайшло больш двух з палавінай гадоў, у лагеры ўтварылася падпольная група. Наладзілі ўцёкі, сярод уцякаўшых была і Ганна. Праз некалькі дзён яе прывезлі ў лагер з параненай нагой. Нягледзячы на рану, жорстка збілі, пасадзілі ў карцэр. Пазней, калі змагла рухацца, адправілі ў канцлагер. У 1944 годзе працоўны лагер вызвалілі нашы войскі. Бацька і старэйшы брат сталі салдатамі, маці з малодшымі дзецьмі вярнулася на Радзіму. З фронта прыйшоў толькі брат, бацька загінуў. Ну а пра Ганну доўгія гады не было ніякіх вестак, лічылі, што яна таксама загінула.

— А я трапіла ў канцлагер на граніцы з Францыяй. Жыццё ў ім, калі гэта можна назваць жыццём, было больш жудасным, чым там, дзе засталася наша сям'я,— расказвала Ганна Апанасаўна.—Але людзі не былі зламаныя, таксама існавала падполле. Калі даведаліся, што я паранена і як гэта здарылася, мяне таксама ўключылі ў работу. Мы стараліся дапамагчы найбольш слабым, рыхтавалі ўцёкі. Яны ўдаліся, таму што сярод нас было многа французаў, а побач была Францыя, дзе насельніцтва актыўна змагалася з фашыстамі. Так я трапіла ў французскае Супраціўленне. У адной з аперацый была паранена ў галаву, быў прабіты чэрап, моцна кантужана. І калі б не Марсель, які апынуўся побач і амаль паўтара года выходжваў мяне, я б не выжыла. Засталася інвалідам.

— Мы заўсёды помнім пра вайну,—дадае Марсель Лежэ.—Але калі што-небудзь раптоўна нагадвае пра яе Ганне, то гэта рана быццам баліць. Дарэчы, Ганна ў Францыі з'яўляецца афіцыйна інвалідам вайны.

— Так. Нават праезд сюды і назад мне аплачваюць на пяцьдзесят працэнтаў,—усміхаецца Ганна Апанасаўна і працягвае:—А потым мы пажаніліся, і я адразу ж пачала шукаць сваіх родных. Доўгія гады ніякіх вынікаў не было, але ў 1961-м я атрымала аб іх вестку, а ў 62-м ужо сама была тут. З 64-га мы прыязджаем разам з мужам рэгулярна праз кожны год.

— Мы бясконца ўдзячны Марселю за тое, што выратаваў нашу сястру, дапамагаў ёй у пошуках, разумее, што значаць для яе родныя, Радзіма, — гаворыць Надзея Апанасаўна.—Як ўсе мы былі рады ўбачыць яе, уваскрэсшую з мёртвых. Асабліва мама. Дажыла да такога шчасця. Марселю і імя па бацьку прыдумалі. Цяпер яго вельмі многія ў Наваполацку завуць Марсель Марселевіч. Ён вывучыў рускую мову і цяпер нам зусім як родны.

— А вам самому падабаецца прыязджаць сюды?

— Вядома, тут жа ў мяне столькі радні,—смяецца Марсель Лежэ.—І я вельмі добра разумею, што жонка не можа без гэтага абысціся.

— Так, абысціся без Радзімы, родных і блізкіх нармальны чалавек не можа,—гаворыць Ганна Лежэ.—Мы нядрэнна жывём у Францыі, але сюды цягне пастаянна. Я шчаслівая проста тым, што магу пагаварыць са сваякамі, прайсціся па роднай зямлі. Мяне цешыць, што ўсе яны няблага жывуць. Вядома, мы ведаем і аб многіх праблемах, бачым іх. Вось, напрыклад, некалі радаваліся таму, як расце і прыгажэе Наваполацк. А цяпер паўстала праблема: забруджванне горада адходамі хімічных прадпрыемстваў. Вельмі многага не хапае ў магазінах, некаторыя тавары толькі па талонах. Усё гэта мы ведаем. Але праблемы ёсць усюды. Галоўнае, каб людзі мелі магчымасць мірна жыць, тады і любыя праблемы змогуць вырашыць. Вы пачалі перабудову і з часам даб'яцеся поспехаў. Ну а мы будзем усяляк падтрымліваць палітыку Міхаіла Гарбачова, якая ў значнай меры ўмацоўвае аўтарытэт нашай Радзімы за мяжой. Людзі ў Еўропе паверылі, што Савецкі Саюз нікому не пагражае, што з ім можна ладзіць, жыць у міры. Таму я заўсёды ўсім гавару: «Галоўнае, каб не было вайны, усё астатняе будзе».

**У. ФАМІН.**

